# БОЖЫМ ШЛЯХАМ


1967
Сакавік-Красавік

Год XV
№ 2 (101)


ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1967 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.
У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.
У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:
Mr. Antony Bielenis, 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinojs, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:
Mr. Pituška, 31 Noble Str., Toronto, Ont. Canada.

У Нямеччыне:
Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

У Аўстраліі:
Mr. M. Nikan, 14 Steel Str., Spotswood — Melbourne, Vic. 14, Australia.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:
Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XV** **March—April 1967** **№ 2 (101)**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE, LONDON, N. 12.
ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год. XV . САКАВІК—КРАСАВІК 1967 № 2 (101)

УЛАДЫКА ЧЭСЛАЎ СІПОВІЧ, АПОСТАЛЬСКІ ВІЗЫТАТАР БЕЛАРУСАЎ
і
РЭДАКЦЫЯ «БОЖЫМ ШЛЯХАМ»
ВІТАЕ ДАРАГІХ ЧЫТАЧОЎ, ПРЫЯЦЕЛЯЎ І ЎСІХ СУРОДЗІЧАЎ-БЕЛАРУСАЎ

ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Такжа са
СЬВЯТАМ 25-ГА САКАВІКА!
КАБ БОГ ДАЎ НАШАМУ НАРОДУ ВОЛЮ І ПОЎНУЮ СВАБОДУ
НАШАЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЕ!

---

**а. Фэлікс Ж.**

## *Хрыстос Уваскрос!*

I. Гэта — аснова нашае веры.

Сонца ўзыйшло пасьля цёмнае ночы і ўсім стала весяла на сэрцы: усё прабудзілася да жыцьця. Уваскрасеньне Хрыста гэта ёсць Усход Вечнага Сонца для нашых душаў. Зь Яго Уваскрасеньням пачаўся новы дзень для чалавека, «Вялікдзень», які трываць будзе бязконца і які зазьзяе яшчэ большым блескам у вечнасьці.

Гэтае здарэньне ня толькі ёсьць радаснай таямніцай нашае веры, але і непахісным фундамантам. Бо сам Дух Сьвяты словамі сьв. Ап. Паўла гаворыць: «Калі Хрыстос не ўваскрос, дык і навука наша дарэмная і вера вашая» (I Карынт. 15, 14). Бо і, сапраўды, усё на гэтым абапёртае. А сам Хрыстос казаў: «Сын Чалавечы выданы будзе ў рукі чалавечыя: і заб'юць Яго і на трэці дзень уваскрэсьне». (Мацьв. 17, 22).

Дык па Яго сьмерці ўсе прыяцелі і ворагі Ягоныя зь неспакоем чакалі, што зь Ім станецца? Хрыстос спаўняе сваё прадказаньне: на трэці дзень устае з гробу жывы, каб панаваць на векі над усякім стварэньнем — ці хто захоча, ці не захоча Яго прызнаць. Але-ж ніхто сваею моцай, апрача Бога, ня можа ўскрашаць, а тымболей свайго цела пасьля сьмерці. Дзеля таго Ап. Павал з рашучаю пэўнасьцю кажа: «Ведаю, у Каго я ўвераваў». (Цімаф. II, 1, 12).

Нічога дзіўнага, што першыя хрысьціяне прынялі гэтую таямніцу зь вялікай радасьцю: яна і давала сілу паміраць за Хрыста. Яны разгалашалі Уваскрасеньне Хрыстовае па цэлым сьвеце і гэтая праўда заваладала мільёнамі людзкіх сэрцаў. А найперш Апосталы ў сваіх прамовах новую навуку асноўвалі на моцным фундаманце Уваскрасеньня. І Ап. Павал гаворыць, што больш 500 чалавек бачылі ўваскросшага Хрыста і што аб'явіўся яму самому.

Але затое ворагі Хрыста адразу пачалі змагацца з гэтаю праўдаю. Адразу разгаласілі, што вучні ўкралі Яго Цела, калі старажы спалі. Але-ж яны самі ня прыкмецілі, што кража памёршага цела не дала-б ніякае карысьці. Зрэшты, сьпячыя старажы былі няверагоднымі сьведкамі.

І наагул ворагі хрысьціянства рознымі выдумкамі стараліся запярэчыць догмат уваскрасеньня Хрыстовага, як — напрыклад — гэрэтыкі гностыкі навучалі, што Сын Божы ня прыймаў сапраўднага цела, а толькі для вачэй здаваўся чалавекам. — Але сьвяты Ян Апостал кажа: «Хто ня прызнае Ісуса Хрыста, што прыйшоў у целе, той ня ёсьць ад Бога і гэта дух антыхрыста» (I, 4, 3).

А цяперашнія бязбожнікі зноў ударылі ў гэты непахісны фундамант нашае веры, кажучы, што наагул Хрыста ня было, а ёсьць Ён толькі выдумкаю. Але ня трэба было доў-

га чакаць, каб яны самі, ратуючы сваё аблічча перад сьветам сапраўднае навукі, адступілі ад сваей фальшывай гісторыі.

Дык вось так мы бачым, як узбураныя хвалі людзкога фальшу і злосьці разьбіліся аб нагробны камень, які быў прывалены да Хрыстовае пячоры. Спаўняюцца словы Сьвятога Пісьма: «Праўда Госпада трывае навекі».

*

II. Уверыўшы, што Ісус Хрыстос ёсьць Богам, мы адважна ідзём за ягонаю навукай. Ужо праз сьвяты хрост мы нарадзіліся да **новага жыцьця** і ўзмацняем гэтае жыцьцё Целам і Кроўю Гасподняй — Сьвятым Прычасьцем. Калі-б упалі ў няшчасьце душы праз цяжкі грэх, дык можам ратавацца праз пакуту-споведзь. — Аднак мы ня мелі-б ні права, ні адвагі прыступаць да Сьвятых Тайнаў, каб мы ня верылі ў Уваскрасеньне Хрыстовае! Сапраўды, вялікім шчасьцем ёсьць для чалавека гэтае новае жыцьцё душы ў Ісусе Хрысьце. Ян Апостал піша: «Глядзеце, якую любоў даў нам Айцец, каб нам называцца Дзяцьмі Божымі». (У першым лісьце 3, 1). І далей: «Мы ведаем, што перайшлі ад сьмерці ў жыцьцё» (3, 14).

І мы ўсе ведаем, што іншым жыцьцём жыве дзіця бедных бацькоў, а іншым дзіця каралеўскае. Але няма ніякага параўнаньня пра жыцьцё дзіцяці Божага, да якога мы нарадзіліся праз тайніцу хросту. Гэтае жыцьцё праяўляецца асабліва ў тым, што чалавек асьвечаны вераю **пазнае** Бога як свайго Айца, жыве **надзеяй** злучыцца зь Ім у небе, **любіць** Яго як найдасканальшую Істоту і **слухае** Яго не са страху, але зь дзіцячай любоўю, а бліжняга кахае як брата ў Хрысьце. — Бог у адказ за такую любоў дарыць нас сваёю вечнай, айцоўскай любоўю, напаўняючы нашае сэрца сваею дабратой і пацехай. — Як кажа Псальмісты: «Скаштуйце і ўбачце, як салодкі ёсьць Госпад!».

III. Гэтае жыцьцё дзяцей Божых, зроджанае ў сьвятым хросьце, ёсьць толькі **пачаткам бязьмерна шчасьлівага жыцьця,** якое Бог прыгатаваў сваім дзецям у вечнасьці. Той-жа Сьв. Ян ап. кажа: «Наймілейшыя, мы цяпер дзеці Божыя, але яшчэ ня выявілася, што мы будзем. Ведаем толькі, што, калі выявіцца, дык будзем падобныя да Яго, бо ўбачым Яго, які Ён ёсьць». (I. 1, 2).

Гэта акажацца нам, калі Хрыстос уваскрэсіць нас самых у апошні дзень існаваньня сьвету. Сам Хрыстос ясна казаў апосталам і ўсяму народу і нават ворагам: «Воля паслаўшага Мяне Айца ёсьць тая, каб з таго, што Ён мне даў, нічога не загубіць, але ўваскрасіць усё гэнае ў апошні дзень»... «Каб кожны, хто бачыць Сына і верует ў Яго, меў жыцьцё вечнае, і Я ўваскрашу яго ў апошні дзень» (Ян 6, 3, — 40). І аб Сьв. Прычасьці Госпад гавора: «Хто спажывае цела Маё і п'е кроў Маю, мае жыцьцё вечнае і Я уваскрашу яго ў апошні дзень» (Ян: 6, 54).

Але ня толькі сваім словам Хрыстос запэўніваў нас, але сваім уласным уваскрасеньням пераканаў нас, што мае Божую сілу і даў нам прыклад, як будзе выглядаць нашае цела, бо будзем падобныя да Яго Самога.

Як бачым, Вялікдзень дакладна лучыцца з нашым уваскрасеньнем: сьвяткуючы Пасху мы цешымся ня толькі Ўваскрасеньнем Хрыстовым, але і з нашага ў прышласьці. Гэтую нашую радасьць павялічвае і ўся прырода, якая будзіцца вясною да новага жыцьця. Зьёю разам цэлай душою будзем сьпяваці: «Хрыстос Уваскрос!» — «Алелюя!»

---

**Д. Анісько**

# Вялікае значэньне малітвы

У нас на Беларусі быў вельмі прыгожы звычай штодня рана й вечар маліцца. Але і цяпер можна спадзявацца, як кажа а. Ян Тарасэвіч у адным з сваіх вершаў, «ёсьць такія беларусы, што малітвай ўсьцяж жывуць». -- А малітва чалавеку патрэбна нават для псыхічнай раўнавагі і для здароўя: значыць, штодня трэба хоць на кароткі час адарвацца ад турботаў і скіраваць увагу і думкі да найвялікшай Магутнасьці, да Бога, каб у Ім хоць на хвіліну спачыць і набраць неабходнае сілы да далейшага жыцьця.

Гэта — ў абставінах нармальных; калі-ж прыйдзе якое няшчасьце, тады тымбольш у малітве чалавек знайходзіць вялікую падтрымку, ратунак і пацеху. Аб малітве ў турме а. Гэрмановіч піша ў сваіх «Успамінах»: «Каб не малітва, дык я пэўна зьвіхнуўся-б зусім! У тыя цяжкія хвіліны мне найлепш памагаў ражанец. Кароткая развага ражанцовых тайніцаў і паўтараныя малітвы да Найсьвяцейшае Дзевы супакойвалі мае хворыя нэрвы».

Д-р Mc. Kreken кажа: «Каб увесь чалавек мог быць здаровы, ён мусіць дбаць і аб здароўі цела і аб здароўі душы. Мусіць дбаць і аб дзейнасьці цела і аб дзейнасьці душы. Сьветам духовай дзейнасьці ёсьць рэлігія, у

ей пачэснае месца займае малітва. Яна падносіць чалавека над штодзённасьцю, узмацняе яго сілы, прыводзіць да раўнавагі, адчыняе прад чалавекам вышэйшы сьвет — ідэальны. Малітва лечыць духовыя слабасьці, якіх нічога іншага вылечыць ня можа. Яна ёсьць жыватворчаю сілаю для цэлага чалавека».

Але найважнейшае ёсьць тое, што ў малітве чалавек можа і павінен зьвяртацца да Бога, як да свайго Тварца і Валадара:

1) аддаваць Яму найвышэйшую пашану, што Яму, як Тварцу і Валадару, слушна належыцца,

2) каб падзякаваць Яму за ўсе дабрадзействы, хаця-бы за тое, што чалавек жыве.

3) І чалавек павінен маліцца, каб перапрасіць Бога за свае і чужыя правіны, бо хто-ж з нас бязгрэшны?

4) Дый у малітве можам прасіць Бога аб усім нам патрэбным, а што ня ёсьць праціўна Яго сьвятой волі. — Бо ня можа, напрыклад, злодзей маліцца, каб што гладка ўкрасьці, ці аб што іншае такое.

Вось-жа ў малітве выказваем сваю залежнасьць ад Бога і атрымліваем усякія ласкі, чаго іншымі способамі асягнуць немагчыма.

Калі-ж і малітваю чалавек ня можа атрымаць чагосьці, ці адбараніцца ад якой бяды, — то відаць, што воля Божая ёсьць іншая: тады павінен схіліць галаву перад Божым провідам. — Так яму будзе лягчэй перанесьці тое, як допуст Божы.

Такі ўзрушальны прыклад рэзыгнацыі прышлося мне бачыць у фільме, дзе паказана нязьлічоная колькасьць пілігрымаў у Люрд (Lourdes). А між масай хворых адна жанчына, відаць, маці з хвораю дачушкай на руках перад статуяй Маці Божае. І хаця, як там паказана, хворая дзяўчынка на матчыных руках памірае, аднак на абліччы жанчыны відаць ня роспач, а ціхі супакой, што яе дзіця адыйшло ў сьвет больш дасканальны.

І там у Люрд дзеюцца цуды даволі часта — цуды камплетнага аздараўленьня, цуды для ўсіх відавочныя. Але там бывае яшчэ больш цудаў таямнічых, якія адбываюцца ў душы і ў сэрцы і ў цэлым характары чалавека, як было з той жанчынай з успомненага фільму.

Маліцца можна беспасярэдня да Бога, як у «Ойча наш», ці да Божае Маці, як у «Прывітана будзь . . .», ці да анёлаў, або да Божых сьвятых.

У Сьвятой Зямлі прыходзілася бачыць, як некаторыя моляцца з паднятымі рукамі, нават арабы-магамэтане, што відаць на нашым малюнку-фото. Дык што-ж гаварыць аб нас



хрысьціянах, з якіх вельмі многа на малітву «ня маюць часу»!

Некаторыя людзі малітву лічаць непатрэбнай, але і яны, хоць калі-некалі, аднак часам у душы сваей уздыхаюць да Бога. А нават бязбожнікі ў хвілінах прабліску Божае ласкі гэта робяць.

Бог ёсьць бязьмерна міласэрны. Ён да апошняе хвіліны жыцьця чалавека, які ад Яго адыйшоў, які слова «Бог» піша ўжо малой літарай, які цалкам Яго адракаецца, — дык і такога марнатраўнага сына Бог аднак хоча да Сябе навярнуць, — для яго-ж уласнага дабра, яго шчасьця.

Яшчэ ніхто не патрапіў даказаць таго, што Бога няма; а што Бог ёсьць, то аб тым сьведчыць увесь існуючы сьвет, уся натура. А навука чым далей, тым больш пераконваецца аб гэтым.

Кожны памяркоўны чалавек да малітвы абыякава адносіцца ня будзе, але стараецца пры ўсякай нагодзе зь яе карыстаць. Ёсьць адно з найпаважнейшых заданьняў для кожнага чалавека — гэта ягонае вечнае збаўленьне, а яно ў вялізнай меры залежыць ад малітвы.

Д-а.

# Катастрофа Каталіцкае Царквы ў Беларусі

Ад пары да пары ў прэсе вольнага сьвету зьяўляюцца весткі аб сучасным рэлігійным жыцці ў Беларусі ў межах БССР. Бяз сумніву там знайходзіцца шмат вернікаў як праваслаўнай, так і каталіцкай Царквы.

Займемся тут вылучна каталіцкай Царквой лацінскага абраду.

Калі арганізавалася сучасная БССР, яе тэрыторыя шмат разоў зьмянялася. Пры ўсіх аднак зьменах зусім не бралася пад увагу існуючых дыяцэзіяў і біскупскіх пасадаў. Як ведама, сучасная БССР ёсьць вынікам розных палітычных камбінацыяў, часта варожых Беларусі і яе разьвіцьцю паводле патрэбаў насельніцтва і прыроды краю.

Пасьля разьдзелу Рэчыпаспалітай (1772, 1793, 1795) уся Беларусь апынулася пад расейскім рэжымам. Тады-ж царскі рэжым імкнуўся зьнішчыць каталіцкую Царкву на Беларусі. Рабіў ён гэта аднак не адразу: перш зьліквідаваў каталіцкую Царкву ўсходняга абраду (уніяцкую), а пасьля паступова маніўся зрабіць тое самае і з лацінскай Царквою. Імкнучыся да канчатковай ліквідацыі, царскі ўрад паступаў па рознаму: часам ішоў на кампраміс з Рымскім Пасадам і даваў каталіком часовую свабоду, а часам прасьледаваў духавенства і вернікаў зусім яўна. Заўсёды аднак урад стараўся, каб біскупскія пасады былі абсаджаны асобамі прымірэнчага характару. Такім і быў першы магілеўскі Мітрапаліт Станіслаў Богуш-Сестрэнцэвіч (1774—1826).

Магілёўская Мітраполія была найвялікшай на сьвеце, што датычыць абшару (Мітрапаліт з духоўнай адміністрацыяй быў абавязаны жыць у Пецярбурзе). Да гэтае Мітраполіі належала ня толькі Беларусь, але такжа Расея і Сібір. Існавала ад 1798 г. дыяцэзія Менская, якая была часткай Магілёўскае Мітраполіі. Але Менская дыяцэзія на працягу даволі доўгага часу мела толькі чатырох біскупаў, значыць, часта бывала неабсаджаная. Апошнім яе легальным адміністратарэм ёсьць Яго Дастойнасьць біскуп Б. Слёсканс, які знайходзіцца цяпер на выгнаньні (ў Бэльгіі).

Пасьля першае сусьветнае вайны, калі Польшча здабыла незалежнасьць, на падставе рыскага дагавору ў яе межах знайшлася вялікая частка Беларусі. У той-жа Польшчы былі створаныя 21 дыяцэзія, зь якіх віленская і пінская мелі пераважна беларускае насельніцтва. Даволі шмат знаходзілася беларусаў і ў дыяцэзіях ломжынскай, седлецкай і луцкай.

Ня гледзячы на вялікую колькасьць беларусаў каталікоў у Польшчы, там ня было ані аднаго беларускага біскупа, ані нават беларускае мовы ў духоўных сэмінарыях. Сьвятары беларусы таксама не маглі працаваць сярод сваіх суродзічаў. Аднолькава і згодна ў гэтым выпадку дзейнічалі пальскія царкоўныя ўлады з польскай адміністрацыяй.

Пасьля другой сусьветнай вайны большая частка этнаграфічнай Беларусі знайшлася ў Савецкім Саюзе. За часоў Сталіна тыя каталіцкія сьвятары, якія ўратаваліся ад немцаўнацыстаў, былі вывезены на Сібір, або цэлымі гадамі хаваліся на Беларусі. За Хрушчова некаторым было дазволена вярнуцца ў Беларусь.

Сяньня на тэрыторыі БССР існуе каля 75 каталіцкіх адчыненых касьцёлаў і каля 70 парахвіяў. На працягу савецкае ўлады на Беларусі было зачынена, або зруйнавана некалькі сотак каталіцкіх сьвятыняў, — так што адзін сьвятар змушаны абслугоўваць па некалькі парахвіяў, ды і то — пры розных агранічэньнях і перашкодах. А трэба-ж ведаць, што там астаюцца сьвятары ўжо састарэўшыя, якія перайшлі праз савецкія турмы і лягеры, — нямала між імі спрацаваных і хворых . . .

Калі ў Летуве і Латвіі ёсьць свае біскупы і, хаця ў вельмі сьціплых рамках, дзейнічаюць каталіцкія духоўныя сэмінарыі ў Каўнас і ў Рызе, дык у БССР няма ні аднаго біскупа і няма ніякае духоўнае ўстановы!

Пытаньне: як доўга будзе трываць гэтакі ненармальны стан, стан катастрофы?

Апошнія падзеі ў Каталіцкай Царкве, перадусім ІІ-гі Ватыканскі Сабор, а цяпер візыты Грамыкі і Падгорнага ў Паўла VI, кінулі прамень надзеі і для Беларусі.

У сувязі з візытай у Ватыкане міністра замежных справаў А. Грамыкі адна італьянская газэта падала вестку, што на вакандзе парушаных спраў у перагаворах была і справа ўпарадкаваньня рэлігійных адносінаў каталіцкай Царквы ў Беларусі.

Ізноў-жа аб перагаворах Папы з Падгорным ватыканскі штодзённік «Оссэрваторэ Романо» заявіў: «Айцец Сьвяты парушыў з прэзыдэнтам Падгорным праблемы адносна рэлігійнага жыцьця і прысутнасьці Каталіцкае Царквы на тэрыторыі Савецкага Саюзу».

Падобныя спатканьні і перагаворы, якія адбываліся апошнім часам між Ватыканам і савецкімі прадстаўнікамі, дзеля зразумелых

прычын, ведамыя толькі адзінкам і мы тут можам рабіць толькі такія або іншыя дапушчэньні. Аднак не разьмінёмся з праўдай, калі скажам, што прысутнасьць або наяўнасьць Каталіцкае Царквы ў Савецкім Саюзе — ў канкрэтнай форме — існуе перадусім на Беларусі, на Ўкраіне, у Летуве, у Латвіі і ў некаторых мясцовасьцях Сібіру і Грузіі.

Фактычна найбольшы лік вернікаў лацінскага обраду, аб якіх лягчэй было гаварыць Паўлу VI, з савецкімі прадстаўнікамі, чымся — прыкладам — аб верніках украінскае каталіцкае Царквы, знайходзіцца ў Летуве і ў Беларусі.

Варта зьвярнуць увагу і на факт, мала кім заўважаны, назначэньне айца Ўладыслава Чарняўскага, пробашча ў м. Вішнева (БССР), сябрам Папскай Кангрэгацыі Абрадаў. Падало аб гэтым афіцыяльна ўспомненае ўжо «Оссэрваторэ Романо» дня 25 сьнежня 1966 г.

Хіба не памылімся, калі на заканчэньне скажам, што ня толькі ёсьць вялікая патрэба ўпарадкаваньня царкоўных адносінаў у Беларусі, але — як можна меркаваць з вышэй прыведзеных фактаў — ёсьць і той, хто займаецца гэтай справай, менавіта, Апостальскі Пасад у асобе Яго Сьвятасьці Паўла VI.

У шчырасьць дзейнасьці Апостальскага Пасаду ніхто ня сумневаецца. Сумныя аднак весткі далятаюць з Савецкага Саюзу. Вось нядаўна францускі Камітэт Інфармацыі аб палажэньні рэлігіі ў Савецкім Саюзе, (сябрамі Камітэту ёсьць ведамыя вучоныя Ф. Морыяк, І. Даніелю, А. Льеж і інш.), заявіў, што — нажаль — рэлігійная палітыка ў Савецкім Саюзе ёсьць двудушная. — З аднаго боку — гутарка і прапаганда аб рэлігійнай свабодзе, а з другога — поўны прасьлед рэлігіі, да адміністрацыйнага ўлучна! Такая двудушная рэлігійная палітыка савецкага рэжыму ня прынясе яму той карысьці, якую ён апошнім часам натужна турбуецца здабыць у вольным сьвеце.

*

Увага Рэдакцыі:

Для ілюстрацыі зьмяшчаем фото даўнейшых сьвятыняў каталіцкіх і праваслаўных, якія пры савецкім урадзе былі зачыненыя або ўзятыя на іншы ужытак.

1) Храм Сафіі ў Полацку — цяпер кніжны склад і архіў.

2) Храм у Маламажайску, — цяпер калгасны склад.

3) Нікольская царква ў Магілёве — цяпер — склад абласнога кніга-гандлю.

4) Пётра-Паўлаўскі храм над Сожам — цяпер плянэтарый, які «служыць справе эстэтычнага і атэістычнага выхаваньня працоўных».

Гэты храм быў закладзены 18. X. 1809 г. і пабудаваны адразу на праваслаўную сьвятыню ў стылю італьянскім.



*Храм Сафіі ў Полацку*



*Храм абароннага тыпу ў Маламажайску*

Г. Ціхура

# Грошы Вялікага Княства Літоўскага

Нумізматыка зьяўляецца адначасова галінаю гісторыі і мастацтва. Вывучэньне старых манэтаў часта кідае шмат сьвятла на паўстаньне, разьвіцьцё і жыцьцё дзяржавы, у якой гэтыя манэты хадзілі. З другой стараны знаёмства з выкананьнем і рысункам зьяўляецца хвормаю мастацкага ўспрыняцьця. Усё гэта можна сказаць аб манэтах Вялікага Княства Літоўскага.

Да пачатку XIV-га стаг. звычайнай хвормай грошаў у ВКЛ былі прадоўжныя ці авальныя кускі мэталю, так нарэзаныя, што іх можна было лёгка дзяліць на меньшыя кускі. Такім чынам, калі вартасьць купленай рэчы была меншай, чым вартасьць цэлага куска, той хто купляў дзяліў — «рубіў» — яго паводля нарэзаных лініяў на меншыя кускі адпаведняй вялічыні і вартасьці. Адтуль і пайшоў назоў «рубель». Самыя раньнія беларускія рублі мелі на сабе пячатку, гэрб ці імя князя, або таго, хто іх выпускаў.[1] Такія рублі былі распаўсюджаныя ў Полацка-Смаленскім перыядзе перад паўстаньнем ВКЛ. Існаваньне мясцовай манэты не перашкаджала таму, што ў ходзе былі таксама замежныя грошы, асабліва сярэбраныя і залатыя, якія, дзякуючы сталай вартасьці мэталю, зь якога яны былі зробленыя, былі высока цэненыя як сродак абмену. Ужываньне чужых манэтаў прадаўжалася на Беларусі да канца XVI-га стаг.

Першыя манэты бітыя ў ВКЛ былі ананімныя, аднак прыпушчаецца, што іх выпусьціў Вялікі Кейстут (1377—1379). Яны мелі на адной старане рысунак коньніка (раньняя хворма Пагоні), а на другой хвігуру ў хворме брамы, якая была сямейным знакам Альгердавічаў.[2] У «браме» была літара «К», праўдападобна першая літара імені «Кейстут». Новы рысунак паявіўся на грошах у часе Вялікага Князя Вітаўта (1392—1430). Ён меў хворму крыжа прабітага дзідаю, разам з літараю «V», якая была напэўна ініцыялам самога Вялікага Князя ,або знакам манэтнага двара ў Вільні. Падобныя грошы былі выпусканыя таксама ў паўднёва-заходняй Беларусі ў часе войнаў Вітаўта з Татарамі. Часам ужываліся ў ВКЛ мангольскія грошы, але толькі пасьля таго, калі іхні ўжытак быў афіцыяльна дазволены і ўсе яны былі аштэмпляваныя пячаткаю з знакам Гаспадара («брама»).[3]

Сярод паноў, якія ў тым часе выпускалі свае грошы, быў князь Карыбут з Ноўгарадка Валынскага, брат Ягайлы. Ён ужываў славянскія літары на сваіх грошах і гэрбе. Малыя манэты зь ягонага манэтнага двара мелі на адной старане татарскі напіс, а на другой — крыж, а кругом крыжа надпіс «КОРИБУТЪ»

Іншыя вялікакняжаўскія грошы таго часу мелі на сабе з адной стараны крыж прабіты дзідаю, як ужо было апісана вышэй, а на другой — крыж і слова «ПЕЧАТЬ».[4]

Хоць Польшча і ВКЛ былі цесна зьвязаныя палітычна і дынастычна, аднак беларусы ад самага пачатку ясна паказалі, што яны ня хочуць уводзіць у сябе польскіх парадкаў.

---

[1] Engel & Serrure *„Traite de Numismatique du Moyen Age“*. Tom. III, Paris 1905, p. 1327.

[2] E. Hütten-Czapski: *Catalogue de la Collection des Medailles et Monnaies Polonaises“*. Vol. I. Graz 1957. No. 143.

[3] Engel & Serrure, loc. cit.

[4] Czapski, Op. cit. No. 146.



*Нікольская царква ў Магілёве*



*Петрапаўлаўскі храм над Сожам*

Ніякіх польскіх знакаў ня было на манэтах ВКЛ і, наадварот, на польскіх грашах ня было знакаў ВКЛ. Рублі прадаўжалі хадзіць на працягу ўсяго XV-га стаг., тым больш, што пасьля сьмерці Вітаўта ў ВКЛ ня было новага выпуску грошаў аж да часу Вялікага Князя Аляксандра (1492—1506).[5]

Да пачатку XVI стаг., акрамя рубля, іншымі ведамымі манэтнымі адзінкамі ў ВКЛ былі грыўня і залатнік. Пры Вялікім Князю Аляксандру ўпершыню паявіўся грош. Гэтая манэта першы раз была выпушчаная ў Нямеччыне ў часе панаваньня Людвіка Баварскага (1314—1347). Найранейшы грош ВКЛ меў на адной старане Пагоню, а на другой — арла і надпіс: „ALEXANDER D: G: R: POLONIAE: MON: NO: MAGNI: DUC: LITUANI", зь якога відаць, што манэта была выпушчаная пасьля 1501 г., калі Аляксандар стаўся таксама каралём польскім. Вартасьць гроша была устаноўленая на 10 грыўняў, але гэтая манэта аставалася праз доўгі час досыць рэдкаю. Сярэбраныя паўгрошы і грыўні былі ў больш частым ужытку.[6]

Уступленьне на вялікакняжы пасад Жыгімонта «Старога» (1506—1548) дало новы штуршок да разьвіцьця беларускіх манэтаў. У часе 1508—1529 было выпушчана ў Вільні шмат сярэбраных паўгрошаў, а новыя грошы былі бітыя ў 1535 і 1536 гадах. Яны мелі на адной старане Пагоню, а на другой — польскага арла.[7]

Супраціў ВКЛ польскім уплывам ёсьць відавочны ў грашовай палітыцы гэтай дзяржавы. У 1508-мым годзе была устаноўлена наступная рата вымены між двумя дзяржавамі: 4 літоўскія грыўні раўняліся польскаму паўгрошу, або 5 польскіх грошаў раўнялася 4 літоўскім. Лелевэль, пішучы аб гэтым, заўважвае, што «гэтая мера паказвае на дзіўную падазронасьць у адносінах да грошай Рэчапаспалітай (г. зн. Польшчы) і сьветчыць аб непахіснай волі ліцьвіноў захаваць сваю апрычонасьць і не падпарадкавацца мерам і вагам нямецкай імпэрыі, як гэта зрабілі палякі, якія мелі шматлікія гандлёвыя сувязі з гэтай імпэрыяй».[8]

Пасьля сьмерці Жыгімонта «Старога» ягоны сын, Жыгімонт Аўгуст (1548—1572) павёў у грашовай галіне палітыку вельмі прыхільную для ВКЛ. У часе ягонага панаваньня ў ВКЛ былі два манэтныя двары: у Вільні і ў Тыкаціне. У выніку бесперапыннага ўмешваньня польскага сойму ў каралеўскую палітыку, Жыгімонт пастанавіў ня выпускаць зусім грошай у Польшчы. І сапраўды, пачынаючы ад 1548 г., грошы выпускаліся толькі ў ВКЛ. Першыя выпускі гэтых грошай ня мелі зусім польскага арла, які быў заменены партрэтам Вялікага Князя, у тым часе як на другім баку яны мелі Пагоню зь ініцыяламі «SA» Вялікага Князя і дынастычным знакам («брамаю») пад вялікакняжай каронай. Надпіс «MONETA. MAGNI. DUC. LITVA», ясна паказваў розьніцу паміж грашамі польскімі і ВКЛ. Некаторыя грошы, выпушчаныя перад 1564 г., мелі надпіс, дзе тытул Вялікага Князя стаяў перад тытулам караля. У дадатку да грыўняў, залатых, квартнікаў і грошаў, манэтны двор ВКЛ выпусьціў таксама ў тым часе траякі (тры грошы), чваракі і шастакі, усе з гэрбам ВКЛ.

У 1565—66 г. паявіліся ўпяршыню ў ВКЛ сярэбраныя талеры і паўталеры. Талеры былі ведамыя ў Заходняй Эўропе ад 1518-га году, калі граф Шлік з Ёахімсталь у Багэміі выпусьціў свае грошы. Гэтыя «ёахімсталеры», або ў скароце «талеры», распаўсюдзіліся па ўсёй паўночна-заходняй Эўропе і далі пачатак скандынаўскім рыксдалерам, а таксама долярам у галяндзкіх аселішчах у Паўночнай Амэрыцы. Літоўскі талер раўняўся 30 літоўскім, або $37^1/_2$ польскім грошам. Новая манэта мела ініцыялы «SA» Вялікага Князя і гэрбы Літоўскі (Пагоня), жмудзкі, украінскі і валынскі, а таксама зьмяю, якая была гэрбам італьянскай сям'і Вісконці.[9]

У 1562—63 г. быў выпушчаны зноў нейкі лік манэтаў з Пагоняй на адной старане і арлом на другой. Аднак найбольш распаўсюджанымі былі манэты, якія мелі на адной старане партрэт Вялікага Князя і надпіс „SIGIS. AUG. D. G. REX. PO. MAG. DUX. L.", а на другой дынастычны знак Альгердавічаў («брама») пад вялікакняжай каронай, азначэньне вартасьці (I, II, III, IIII або VI), дату і надпіс „MONETA MAGNI DUCAT. LITV.".

Адной з найбольш прыгожых манэтаў таго часу быў траяк выпушчаны ў 1563 годзе. Ён меў на адной старане надзвычай прыгожа выкананую Пагоню пад вялікакняжай каронай, а на другой — ініцыялы «SA» пад каралеўскай каронай. Мала ёсьць манэтаў, якія маглі-б раўняцца гэтай у дасканаласьці рысунку і выкананьня.[10]

Хіба найбольш цікавымі манэтамі, якія хадзілі ў ВКЛ коратка перад Люблінскай Выніяй былі манэты прывезеныя каралевай Бонай у пасагу ў часе яе жаніцтва з Жыгімон-

---

[5] J. Lelewel: *Antiquites de Pologne, de Lituanie et de Slavonie.* No. 1. „Notice sur la Monnaie de Pologne" Paris 1842, p. 7.

[6] Engel & Serrure, op. cit. p. 1328.

[7] Engel & Serrure: *Traite de Numismatique Moderne et Contemporain.* Paris 1897, p. 542.

[8] Lelewel, loc. cit.

[9] Engel & Serrure, loc. cit.

[10] Адзін паасобнік гэтай манэты знайходзіцца ў Брытанскім Музэю ў Лёндане.




*Ілюстрацыі (Калекцыя British Museum)*

(З права на лева)

*Ніжні рад*

1. Грыўня (XV стаг.), (denarius)
2. Грош (прыбл. 1505)
3. Грыўня (?) denarius

*Другі рад знізу.*

4. Шастак (1547)
5. Грош (?)
6. Траяк (1547)
7. Грош (?)
8. Грош (1519)
9. Грош (1547)
10. Траяк (1566)

*Трэці рад знізу.*

11. Чварак (1565)
12. Чварак (1566)
13. Чварак (1567)
14. Чварак (1567)
15. Чварак (1568)
16. Чварак —
17. Чварак —
18. Чварак —

*Чацьверты рад.*

19. Чварак (1569)
20. Чварак
21. Дваяк (1565)
22. Дваяк
23. Грош (1562)
24. Грош (1563)
25. Траяк (1563)
26. Дзьве грыўні (1576)

*Пяты рад.*

27. Дзьве грыўні (1570)
28. Траяк (1581)
29. Траяк (1582)
30. Траяк (1583)
31. Траяк —
32. Грош (1600?)

*Шосты рад.*

33. Траяк (1590)
34. Дзьве грыўні (1611)
35. Злоты (залатнік) — (1620?)— Solidus
36. Злоты (залатнік) — (1624)
37. Злоты (залатнік) — (1624?)
38. Злоты (залатнік) — (1665) — Moneta aurea
39. Злоты (залатнік) —

*Верхні рад.*

40. Злоты (165?) — (Moneta aurea)
41. Злоты (1665) — (Moneta aurea)
42. Траяк (1665)
43. Злоты (залатнік) — (1652) — (Solidus)
44. Злоты (166?)
45. Злоты (166?)
46. Злоты (166?)
47. Злоты (1666)



там «Старым» (1518 г.). Гэта былі кароны і паўкароны Карла V гішпанскага, выпушчаныя ў Нэапалі. У выніку каштоўнай Інфлянцкай вайны з Масквою, Жыгімонт Аўгуст павінен быў сягнуць да пасагу сваей маткі, каб аплаціць армію. Манэты былі аштэмпляваныя манаграмай Гаспадара і хадзілі нараўне з грашамі ВКЛ. Яны ведамыя сярод калекцыянераў як «фэльдталеры».[11]

У часе перагавораў, якія прывялі канчаткова да Люблінскай Вуніі (1569 г.), патрыятычны дух шляхты ВКЛ і супраціўленьне польскім уплывам прынялі больш востры тон. Польскія дамаганьні ўвесьці аднолькавую валюту спаткаліся з моцным супраціўвам. У 1565 годзе быў выпушчаны траяк, які на аднол старане меў гэрб ВКЛ, а на другой ініцыялы «SA» пад каронаю і надпіс: „QUI HABITAT IN COELIS IRRIDEBIT EOS". («Той, хто жыве ў небе, насьмяецца зь іх». Псалом 2, 4). Гэты едкі жарт на кошт палякаў вызваў сярод іх вялікае раздражненьне.[12]

Пачынаючы з 1569 году грошы ВЛК і Польшчы былі зраўнаныя. Манэты, якія насілі такі самы назоў, мелі тую самую вагу, разьмер і вартасьць. Гэрбы ВКЛ і Польшчы цяпер звычайна стаўляліся разам пад каронаю на адной старане, а на другой звычайна быў партрэт Гаспадара. У часе панаваньня Сьцяпана Батуры (1572—1586) прыняўся звычай, што Вялікі Падскарбі Літоўскі стаўляў на манэтах свой гэрб у дадатку да Пагоні і арла. Манэты выпушчаныя ў тым часе маюць на сабе гэрбы: Лаўрына Войны (пам. 1580), Яна Глебовіча (1581—1583), Лявона Сапегі (1585) і Тодара Скуміна Тышкевіча (1586).[13] Акрамя гэтага Батура выпускаў асобныя талеры, каб адзначыць свае перамогі над Масквою. Вельмі цікавы ёсьць талер, выпушчаны з нагоды вызваленьня Полацка. Ён мае

[11] Engel & Serrure, loc. cit.

[12] Lelewel, loc. cit.

[13] Engel & Serrure, op. cit. p. 543.

наступны надпіс: Dies mensis et annus captae polociae bIs Dena aVgVstI nonaque poloCIa capta est LVce DoLent hostes Castra rapIt stephanVs. (27-га жніўня Полацк узяты, вораг разьбіты, Сьцяпан атакуе замак). Вялікія літары ў суме даюць лік 1579 (рымскім шрыфтам) — дату узяцьця Полацка. Такі спосаб азначэньня даты называецца «хранограм». Другі талер быў выпушчаны ў 1582 годзе, каб адзначыць вызваленьне ад Масквы Лівоніі.[14]

У часе панаваньня Жыгімонта III Вазы (1586—1631) ў ВКЛ выпускаліся манэты з рознымі рысункамі. Трайк з 1590 г. і манэта вартасьцю 2 грыўні з 1611 г. розьніліся ад манэтаў з часоў Батуры і Жыгімонта Аўгуста. Звычайна манэты мелі партрэт, або ініцыял «S», Гаспадара на даной старане, і Пагоню з арлом на другой; або Пагоню на адной старане і ініцыял Гаспадара на другой. Гэрбы падскарбіх былі звычайна на старане разам з ініцыяламі Гаспадара. На манэтах выпушчаных у часе панаваньня Жыгімонта III Вазы ёсьць гэрбы наступных падскарбіх: Тодара Скуміна Тышкевіча (1587—1590), Зьмітра Халецкага (1590—1598), Юрага Завішы (1598—1603), Гароніма Валовіча (1603—1618), Хрыстофа Нарушэвіча (1618—1631).[15]

Пры Уладыславе IV (1632—1648) грошы ў ВКЛ ня выпускаліся. Вялікі Князь Ян Казімір (1648—1669) адчыніў манэтны двор у Вільні, які аднак не праіснаваў доўга з прычыны заняцьця гэтага гораду маскоўскім царом Аляксеем Міхайлавічам. У часе ад 1665 да 1666 г. існаваў манэтны двор у Берасьці. Грошы выпушчаныя ім мелі партрэт Яна Казіміра на даной старане, а на другой — Пагоню, дату і надпіс: „IOAN. CAS. D. G. REX. POL. SOLIDUM, (або MON. AUR.) MAG. DUC. LIT.“.

Гэта быў апошні ведамы выпадак выпуску грошай у ВКЛ. Пасьля гэтага тыя самыя грошы хадзілі ў Польшчы і ў ВКЛ аж да канца Рэчпаспалітай (1796 г.). У XIX стаг. на Беларусі хадзілі маскоўскія (расейскія) грошы аж да рэвалюцыі 1917 г. Ні БНР ні БССР не рабілі ніякіх спробаў выдаць собскія грошы, хоць БНР выдала пачтовыя маркі, вартасьць якіх выражалася ў рублях і капейках. Тэарэтычнай манэтнай адзінкі БНР зьяўляецца талер, які мае 100 грошаў.

На заканчэньне трэба сказаць некалькі словаў аб знаках майстроў і манэтных двароў. Майстры звычайна стаўлялі свае ініцыялы, як. напр.: F (1536), I (1536), DS (Вільня 1582), ID. (Вільня 1595). Прозьвішчы іх асталіся аднак няведамымі. Знак віленскага манэтнага двара звычайна меў хворму простага лісьцявога рысунку або манаграмы.[16] Варта тут таксама ўспомніць прозьвішча некага Файна, які адчыніў у Менску свой прыватны манэтны двор і заняўся мастацтвам хвальшаваньня грошай.[17]

Можна шмат чаго даведацца, вывучаючы грошы ВКЛ, і гэтыя малыя сярэбраныя і залатыя манэты, якія на першы погляд не прадстаўляюць сабою нічога надзвычайнага, могуць расказаць шмат цікавага аб слаўным прошлым краіны.

[14] Lelewel, op. cit., p. 9.
[15] Engel & Serrure, loc. cit.
[16] Czapski: op. cit. Nos. 3901, 4874, 4069, & 6875.
[17] Czapski: op. cit. Nos. 3951, 4072, 5019, & 5117.

# Увага!

# Беларуская гравюра ў дрэве

**(XVI стаг.)**

Скарынава Трэцяя Кніга Царстваў мае больш ілюстрацыяў, чым іншыя кнігі ягонай Бібліі. Усяго там ёсьць сем гравюраў, у тым часе як Кніга Выхаду мае пяць, а ўсе іншыя звычайна толькі па адной. Мэтаю ілюстрацыяў было, як Скарына сам кажа ў прадмовах да кнігаў Выхаду і Царстваў, даць чытачу ўяўленьне аб выглядзе і абсталяваньні жыдоўскае сьвятыні. У гэтым Скарына быў толькі прадаўжальнікам традыцыі заходняэўрапэйскіх друкароў і гравёраў, як напр. Міхась Вольгэмут (1434—1519) з Нюрэнбэргу і Эргард Альтэндорфэр (прыбл. 1480—1519). Была нават высказаная думка, што гравюры сьвятыні Салямона, выкананыя Вольгэмутам у 1481 і 1493 гадох, паслужылі узорам для Скарыны. Магчыма гэта так і было, аднак тэхнічна гравюры Скарыны перавышаюць гравюры Вольгэмута, а з мастацкага пункту гледжаньня яны стаяць вышэй, чым творы Альтэндорфэра, які быў ілюстратарам Бібліі Лютара.



ВЗОРЪ МОРЫ ИЛИ ОУМЫВАЛНИЦИ МЕДЯНОЕ

*Гравюра «меднага мора» (III Царств. 7, 23-26) цікавая тым, што яна паказвае Скарыну як майстра у аддаваньні жыцьця і руху. Выкананьне самога басэйну ёсьць слабое, пэрспэктыва няправільная і паверхня вады прадстаўлена зусім нерэалістычна. Затое надзвычай прыгожа і з вялікім майстэрствам выкананыя струмені вады, што цякуць з кранаў у ніжняй частцы басэйну. Таксама вельмі добра і жыва выкананыя хвігуры валоў, якія падтрымоўваюць басэйн. Скарына стараўся трымацца дакладна апісаньня ў Бібліі і таму зады валоў схаваныя пад басэйнам (III Царств. 7, 25). Ніжняя частка басэйну упрыгожана літымі ўзорамі на падабенства агуркоў (III Царств. 7, 24). Тэхнічна гравюра цікавая тым, што на левай старане басэйну Скарына ужываў крыжовыя нарэзы — вельмі рэдкі выпадак у гэтым раньнім пярыядзе гісторыі гравюры.*

КНИГИ ТРЕТИИ

ВЗОРЪ ДЕСЯТИ ПОДЪСТАВОКЪ И БАНЕИ ИХЪ



*Гравюра рухомай падстаўкі і умывалькі не прадстаўляе вялікай цікавасьці. Скарына трымаецца скрупулятна апісу ў Бібліі (III Царств. 7, 27-37). Аднак найбольш нудныя свае творы ён умее зрабіць цікавымі, дадаючы арыгінальныя дэталі. У гэтым выпадку такімі дэталямі ёсьць сьценкі з падабенствамі сымбаляў чатырох эвангелістаў. Праўда, у Бібліі ўспамінаюцца львы, валы і херувімы, але нічога не гаворыцца аб арлах, якіх Скарына дадаў сам, адыходзячы такім чынам ад сваей звычайнай дакладнасьці.*

*Г. П.*

# *З царкоўнага жыцьця*

## МЯШАНЫЯ СУЖЭНСТВЫ

*Каталікі ўсіх абрадаў атрымалі аднолькавае права.*

Ня так даўна (глядзі: «Божым Шляхам» № 6, 1966, бач. 2-5) ў справе мяшаных сужэнстваў мы між іншым пісалі:

«Магчыма здасца дзіўным, што цяпер атрымалася ў Каталіцкай Царкве адносна мяшаных сужэнстваў выразная супярэчнасьць! Да каталікоў лацінскага абраду кананічнае права тасуецца больш сьцісла, чым да каталікоў усходнікаў. Магчыма, *што наступным крокам будзе аднолькавае правадаўства для ўсяе Каталіцкае Царквы . . .*».

З сапраўдным задаваленьнем мы даведаліся, што нашыя жаданьні і прадбачаньні збыліся хутчэй, чымся нават мы маглі спадзявацца. — Вось маем новы Дэкрэт Паўла VI, надрукаваны у „L'Osservatore Romano“ 26 лютага 1967 г. і падпісаны Прэзэсам Усходняе Кангрэгацыі Кардыналам Густавам Тэста.

Паводле гэтага Дэкрэту каталікі лацінскага абраду, падобна як і каталікі ўсходніх абрадаў — (гэтыя на моцы пастановы Ватыканскага Сабору) — ў выпадку мяшанага сужэнства, за дазволам свайго Біскупа, могуць браць шлюб перад праваслаўным сьвятаром у праваслаўнай сьвятыні і гэткае сужэнства будзе дазволеным і важным (matrimonium licitum et validum).

А *без дазволу Біскупа* мяшанае сужэнства перад праваслаўным сьвятаром і ў праваслаўнай сьвятыні з каталіцкага боку будзе важным (matrimonium validum), але недазволеным (non licitum).

У тым самым Дэкрэце, які бяз сумніву адыграе вялізарную ролю ў адносінах між каталікамі і праваслаўнымі, ёсьць просьба да сьвятароў, каб пасьля ў адмысловых кнігах шлюбных быў запісаны адпаведны сам акт шлюбу і рэлігія маладых.

У нас на Беларусі, як таксама і на чужыне, часта здараліся мяшаныя сужэнствы. Пакуль існавала ў Каталіцкай Царкве суровая дысцыпліна, звычайна так сьвятары як і самі вернікі пры гэтай нагодзе мелі нямала прыкрасьцяў. Дазволу браць шлюб у праваслаўнай сьвятыні блізка што не давалася зусім. Пасьлядоўна каталікі ўважаліся за адступнікаў ад сваей веры і не маглі больш спавядацца і прычашчацца ў каталіцкай царкве. Вось-жа ад дня 25 сакавіка — (ад даты вельмі дарагой беларусам) — 1967-га году, калі нова-выданы Дэкрэт з волі Рымскага Першасьвятара становіцца правамоцным, тое старое права зьмянілася!

Дух Сьвяты на II-ім Ватыканскім Саборы падказаў новыя шляхі, шляхі ўзаемнага зразуменьня і большае Хрыстовае любові.

Рым, 26 лютага 1967 г.

*Др. Ч. С.*

## ТЫДЗЕНЬ МАЛІТВАЎ

*пра злучэньне хрысьціянаў*

Ужо пара дзесяткаў гадоў хрысьціяне моляцца пра лучнасьць веры паводле думкі Хрыстовай, «каб усе былі адно». Гэта пачалося ў пратэстантаў і перайшло да каталікоў і інш. А пасьля II-га Ватыканскага Сабору ўсе хрысьціяне пачалі лучыцца ў супольных малітвах, так наз. «экумэнічных».

У Англіі, дзе пратэстанты раздрабіліся на дзесяткі цэркваў і дзе асабліва адчуваецца патрэба злучэньня, «Тыдзень малітваў» — 18-25 студзеня — стаўся агульнай рэлігійнай маніфэстацыяй. У Манчэстэр удзельнічаў у іх кардынал Гінэн. Быў ён там нават у жыдоўскай сынагодзе, дзе выступіў з публічнай прамовай і заклікам да лучнасьці ў веры, да чаго асабліва прычыняецца супольная малітва веручых людзей.

У Лёндане 22/I адбылася экумэнічная працэсія: разам ішлі — сьпявалі і маліліся — каталікі, праваслаўныя, англікане, мэтадысты, баптысты і іншыя. Пры сьпеве і музыцы, у прыгожым малітаўным настроі, працэсія прайшла з пляцу Трафальгар да царквы мэтодыстаў.

Але з боку стаяла невялічкая група нязгодных «пратэстантаў» з транспарантамі: «Далоў злучэньне з Рымам!» і інш. лёзунгамі супраць Каталіцкае Царквы. Яны прабавалі таксама сьпяваць і мяшацца з працэсіяй, каб выклікаць закалот, але паліцыя іх не допускала; толькі, як экумэнічная працэсія ўвайшла ў сьвятыню, гэтыя «пратэстанты» стаялі там пад дзьвярамі і «пратэставалі», колькі ім жадалася . . .

У царкве мэтодыстаў сабралася поўна людзей. Пасьля супольнай малітвы выступіў з прамоваю Др. М. Барнэтт, пастар мэтадыстаў. Пасьля яго прамаўляў каталіцкі сьвятар Бартлетт. У сваей прамове, поўнай далікатнасьці да ўсіх веравызнаньняў, Бартлетт выясьняў словы Ісуса Хрыста, якія гаварыў на апошняй Вячэры

## Зь беларускага жыцьця

*Пратэст супраць візыты Касыгіна ў Англіі*

У часе ад 6-га да 13-га лютага быў у Англіі савецкі прэм'ер Аляксей Касыгін. У сувязі з гэтым прадстаўнікі эміграцыяў паняволеных Саветамі народаў ладзілі розныя пратэсты, каб зьвярнуць увагу ангельскага грамадзтва на стан, у якім гэтыя народы знайходзяцца. Бралі ўдзел у гэтых пратэстах і беларусы. З усіх выступленьняў найбольш годным ўвагі было інтэрв'ю у ангельскай тэлевізіі БіБіСі з прадстаўнікамі беларусаў, украінцаў, летувісаў, латышоў, эстонцаў і жыдоў. Інтрэрв'ю адбылося ў панядзелак 6-га лютага, дзень прыезду Касыгіна. Ад беларусаў выступаў Старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі, сп. Павал Навара. На запытаньне, што ён сказаў-бы Касыгіну, калі-б спаткаўся зь ім, сп. Навара адказаў, што ён зажадаў-бы ад яго сапраўднай свабоды для Беларусі і спыненьня русыфікатарскай палітыкі.

Беларусы ўзялі таксама ўдзел у пратэстацыйным мітынгу ў Брадфардзе.

*

*Вершы Танка па ангельску.*

Месячнік «Soviet Literature», які выходзіць у Маскве ў ангельскай мове, зьмясьціў у кастрычніцкім нумары мінулага году дзевяць вершаў Максіма Танка ў тлумачэньні ангельскіх паэтаў Ўолтэра Мэйа, Пітэр Тэмпэст, Маргарэт Ўэтлін і інш. Як сам падбор вершаў, так і тлумачэньні ёсьць вельмі ўдалыя. Вершы папярэджаныя кароткім уступам аб паэзіі Максіма Танка, напісаным Лідзіяй Залескай, а таксама партрэтам паэты.

## На кніжнай паліцы (Рым)

I. Epistolae Jasonis Junosza Smogorzevskyj Metropolitae Kioviensis Catholici 1780—1788. Romae 1965. (Бач. XXXIX+455). Collegerunt: P. Athanasius G. Welykyj et Ex.mus D. Ceslau Sipovič.

Ад 1952 г. выдаюцца ў Рыме пад агульным тытулам: „Analecta Ordinis S. Basilii", дакуманты, пераважна з ватыканскіх архіваў, якія адносяцца да гісторыі Царквы Беларусі, Украіны і суседніх народаў.

Гэтае вялікае выдавецтва Айцоў Васіліянаў абыймае дакуманты Рымскіх Папаў, Акты Рымскіх Кангрэгацыяў, Лісты вуніяцкіх Мітрапалітаў і Біскупаў, Лісты Нунцыяў і інш. Дагэтуль выйшла з друку 38 тамоў, зь якіх блізу ўсе маюць больш чымся 400 бачынак друку.

Як відаць зь ліку выданых кніг — гэта ўжо значная бібліятэка. Заўважым, што вялікая частка дакумантаў выдаецца пад агульным лацінскім назовам: „Acta S.C. de Propaganda Fide Ecclesiam Catholicam Ucrainae et Bielarusjae spectantia," (дагэтуль выйшла 5 тамоў); „Litterae S.C. de Propaganda Fide Ecclesiam Catholicam Ucrainae et Bielarusjae spectantes", — (дагэтуль выйшла 7 тамоў).

Трэба нам аценіць нятолькі працавітасьць і натугі вучонага зьбіральніка дакумантаў, айца Архімандрыта А. Г. Вэлыкага, але і ягоную ляяльнасьць да Беларускае Царквы. Сапраўды немагчыма на працягу гісторыі, асабліва ў сьцісла навуковых выданьнях, аддзяліць гісторыі ці гістарычных дакумантаў суседніх краінаў. Аднак розныя акадэміі, калі выдаюць ватыканскія архівальныя дакуманты, дык звычайна даюць абмежаны назоў, прыкладам: „Monumenta Poloniae Vaticana", або выданыя Тургеневым: „Historica Russiae Monumenta". Успомненыя гэтыя іхнія выданьні маюць многа дакумантаў адносна іншых народаў, а таксама і адносна Беларусі, хаця абмежаны назоў імям аднэй толькі іхняй нацыі.

Айцец Вэлыкый шырэй глянуў на справу і зрабіў гэта цалкам слушна.

Кніжка, аб якой тут жадаем сказаць пару слоў, ёсьць вынікам працы ў ватыканскіх архівах Біскупа Ч. Сіповіча, які такжа ў 1946 г. напісаў навуковую працу аб Мітрапаліце Язоне Смагажэўскім. Рыхтуючы тую працу, а. Ч. С. сабраў па розных архівах лісты арыгінальныя або копіі з арыгіналаў успомненага Мітрапалі-

---

да апосталаў (ў малітве да Айца Нябеснага):

«Я ня толькі за іх малюся, але і за тых, што ўверавалі ў Мяне па слову іх. Няхай будуць усе адно, як Ты, Айцец, ува Мне, і Я ў Табе, так і яны няхай будуць адно, каб паверыў сьвет, што Ты паслаў Мяне. І славу, якую Ты даў Мне, Я даў ім, каб былі адно, як і Мы адно» (Ян. 17, 20-22).

Гэты сьвятар пасьля на заканчэньне даў усім сабраным багаславенства.

Наагул праз цэлы час малітваў бачылася ў сабраным народзе вялікая павага і глыбокае ўсхваляваньне, што было знакам зразуменьня і адчуцьця патрэбы адзінства ў Хрыстовай Царкве. Вельмі ўзрушаючы быў момант, калі на прапанову праўдніка ўсе прысутныя адмаўлялі супольна малітву «Ойча наш . . .».

Ёсьць вялікая надзея, што экумэнічны рух абыйме ўвесь сьвет і ўжо надыйшоў час, каб і беларусы зразумелі патрэбу лучнасьці між сабою ў справах рэлігіі і ў лучнасьці Цэркваў, як маліўся Сам Ісус Хрыстос: «Каб усе былі адно!».

*Учасьнік Ф. Ж.*

та. Гэты матар'ял упарадкаваў і выдаў нядаўна а. Вэлыкый у сэрыі «Лістоў Мітрапалітаў і Біскупаў». Такім чынам над дакумантамі Мітрапаліта Смагажэўскага працавалі ўкраінец і беларус.

Каб падобнае супрацоўніцтва магло і надалей працягвацца, ня было-б дрэнна. Навуковае выданьне толькі на гэтым выграла-б.

*

II. Zeno Ignonis, *Sabaot Dio degli Eserciti,* Instituto Editoriale del Mediterraneo, Roma 1967. (Бач. 290).

Маемо новую кніжку ў італьянскай мове літоўца, пад назовам «Сабаот — Бог Войскаў». Аўтарам яе зьяўляецца літоўскі сьвятар Зэнон Ігноніс, які ў часе апошняе вайны быў капэлянам літоўскіх частак, што знаходзіліся на Беларусі. Будучы сьвятаром, аўтар кніжкі меў вельмі частую нагоду працаваць у душпастырстве таксама і сярод беларускага насельніцтва і спатыкацца зь беларускімі дзеячамі.

Кніжка мае вынятковую вартасьць і цікавасьць для беларусаў. Вось загалоўкі некаторых разьдзелаў: «Маткі беларускі», «Бязбожны музэй у Віцебску»», «Айцец Гадлеўскі», «Беларусь» . . .

Расказы айца Зэнана кароткія, рэфлексыйныя. Паказваюць аўтара кніжкі як ідэйнага сьвятара і літоўскага патрыёта. Некаторыя зь іх маюць вартасьць таксама для будучага гісторыка тых страшных падзеяў, калі на нашай Бацькаўшчыне спаткаліся дзьве ідэялёгіі, дзьве ўзброеныя магутныя дзяржавы, абедзьве аднолькава бязбожныя і аднолькава незацікаўленыя нашай краінай. Аўтар кніжкі коратка схарактарызаваў іх адным сказам Сталіна: «Адзін труп — трагедыя, сто тысяч — статыстыка».

Пад днём 24 сьнежня 1942 г. чытаем аб кс. Вінцэсю Гадлеўскім:

— Аднаго дня пасьля майго павароту з Магілёва, каля гадз. восмай вечара зьявіўся кс. Гадлеўскі разам з двума спадарамі. Яго выгляд на першы позірк здаваўся лішне суровым. Не пасьпеў я ім сказаць: «Калі ласка, займеце месца!» як яны занялі яго самі. Пасьля кароткага і нявыразнага прывітаньня, магчыма, зьвернутага да мяне, бо я добра не зразумеў, адзін з двох, з выгляду больш сухі, з чорнымі валасамі, адразу пачаў наском правае нагі біць аб зямлю.

«Пракляты знак дэспатычнай цярплівасьці!» сказаў я сам сабе.

Тымчасам кс. Гадлеўскі выясьніў голасам, што ледзь было чутно:

— Айцец Зэнан, я прыйшоў сюды папрасіць Вас у аднэй справе: я павінен ехаць у Нямеччыну, вярнуся . . . за два тыдні. Ці-ж ня так?

І тут зьвярнуўся да аднаго з «асысты», да худзейшага. Гэты, выбіваючы нагой быццам у народным танцы, кіўнуў галавой на «так», але гэты гест яўна няшчыры заалярмаваў мяне яшчэ больш.

Кс. Гадлеўскі закончыў: «Прашу айца адслужыць літургіі (імшы) ўжо вызначаныя».

Я абяцаў, але ня чуўся тады спакойным, вызнаю. Дзьве асобы былі настолькі «прыцягваючымі», што я баяўся, каб за хвіліну не запрасілі і мяне ісьці зь імі. Былі гэта два агенты з Гестапо адзін адказны, а другі ягоны перакладчык.

Калі яны выйшлі, першы зь іх ішоў наперадзе, кс. Гадлеўскі пасярэдзіне, другі за ім ззаду. Мне здавалася, што гэты апошні больш даступны і што ён сам лішне затурбаваны, акідаў позіркам бязупынна сьвятара. Хуценька сьцішаным голасам я спытаў яго:

— Куды ідзіцё?

— (Падняў плечы): — Ня ведаю!

Перакладчык кіўнуў галавой абманчыва.

Тры чалавекі зьніклі ў начной цемры і я астаўся сам адзін.

Тады я захацеў паведаміць беларускія ўлады. Яны ўжо ведалі больш чым я: дэпартацыя!

— І чаму? — пытаюся зьбянтэжаны. — Ён-жа быў у добрых адносінах зь мясцовымі нямецкімі ўладамі!

— Так, быў! — мне адказваюць. — Але, калі нямецкім уладам стала ясным, што зашмат працавала ягоная фантазія адносна аднаўленьня беларускай незалежнасьці і адносна ягонай паездкі ў Бэрлін, каб данесьці Гітлеру аб надужыцьцях нацыянал-сацыялістычных урадоўцаў у Менску і ўва ўсёй краіне, калі стала ясна, што кс. Гадлеўскі больш не давярае Гестапо . . . рэшту, айцец, можаце дагадацца самі . . .

Далей аўтар ня зусім удала раўнуе сваю сьвятарскую дзейнасьць з палітыкай кс. Гадлеўскага, забываючы, кім быў для беларусаў кс. Вінцэнт Гадлеўскі. Ён быў нашым Глінкай і Тіссо, якія адначасна змагаліся за вольнасьць народу і за Божы справядлівы лад у сваей Бацькаўшчыне, за што айцец Вінцэнт і аддаў сваё жыцьцё.

Зэнон Ігноніс закончыў разьдзел аб кс. Гадлеўскім сказам: «І так яно было ў 1942, Беларусь страціла аднаго з сваіх сыноў».

Быў-бы сказ больш справядлівы, каб аўтар напісаў: «. . . аднаго з сваіх найбольш выдатных сыноў!»

Падобных недагаворак у кніжцы спатыкаецца больш. Магчыма, яны ёсьць вынікам толькі літоўскае паўстрымлівае натуры. Кніжка аднак прызначаецца для італьянскага народу . . .

Ня гледзячы на пэўныя недахопы, кніжка Ігноніса мае для беларусаў асаблівую вартасьць, а тым самым і яе аўтар заслужыў на нашу ўдзячнасьць.

*Ч. з Дз-кі*

# З лістоў у рэдакцыю

ДЗІСНА:

31. I. 1967. Дзякую Богу, вучуся я ня дрэнна і каб так скончыла школу, было-б вельмі добра. За вучобу на Новы Год атрымала кнігу «Учитель в моей жизни».

Вялікі дзякуй Вам за тое, што так прыгожа апісалі Лёндан. Мне гэта вельмі спатрэбілася, таму што па геаграфіі вывучаем усе краіны Эўропы. Скора будзем вывучаць і Азію, Афрыку, Амэрыку, Аўстралію і Антарктыду. Яшчэ мы вучым і нямецкую мову. Гэта мой любімы прадмет.

У нас цяпер стаіць марозная зіма, сьнегу таксама многа. Некалькі дзён не хадзіла ў школу, быў вялікі мароз.

На гэтым я закачваю пісьмо, хаця яно і кароценькае.

*Анюта С.*

*Увага Рэдакцыі:* Хоць гэтая дзяўчына вучыцца, відаць, у беларускай школе, аднак нагароду і там даюць *расейскую!*

✳

КАНАДА: 7. II. 67.

Кароценька падам наступныя весткі:

25 верасьня мы ўрачыста высьвяцілі Беларускую Праваслаўную Царкву Сьв. Еўфрасініі Полацкай у Торонто. Яна была ўжо высьвячана, але гэта яшчэ раз зрабілі пасьля рамонту.

27 лістапада 1966 Беларускае Нацыянальнае Аб'еднаньне і парахвія Сьв. Еўфрасініі ўшанавалі дзень герояў Слуцкага Паўстаньня. Пасьля ўрачыстай Багаслужбы і Паніхіды па палеглых, у собскай залі адбылася Акадэмія. Даклад вельмі зьмястоўны прачытаў сп. Р. Беразоўскі, даючы ня толькі гістарычныя даныя, але, нарысаваўшы карту Беларусі, паказаў розныя інтрыгі падзелу нашай Бацькаўшчыны. — Пры гэтым было пару белар. дэклямацыяў.

14. I. 1967 ў парахвіі Сьв. Еўфрасініі адбылася «ёлка», для дзяцей. Тут дзеці папісываліся рознымі талентамі мастацтва, як п'еска «У Сьвятую Ноч», танцамі, ігрой на акардыёне і дэклямацыямі. Кіравала гэтай імпрэзай Сп-ня В. Пашкевіч.

✳

29. I. 1967 адыйшоў ад нас у вечнасьць сьв. пам. ІГНАТ КАМІНСКІ.

Ігнат паходзіў зь вёскі Казлы, Віленшчына. Нарадзіўся ў 1908 годзе. Прыбыў у Канаду ў 1951. Браў актыўны удзел у царкоўна-праваслаўным і нацыянальна-грамадзкім жыцьці. Беларускае грамадзтва, згуртаванае пры БНА і пар. Сьв. Еўфрасініі, страціўшы парахвіяніна, сябру і вялікага працаўніка, аддало Яму належную пасьмертную пашану.

Будзь Яму лёгкай зямелька Канады і ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!

✳

Яшчэ хачу сказаць, што прыгатаўляем праграму на адсьвяткаваньне 25-га Сакавіка, што мае адбыцца 19. III. 67 г. — разам супольна Белар. Нацыянальнае Абеднаньне і Згуртаваньне Беларусаў Канады, пад Кіраўн. Белар. Каардынацыйнага Камітэту. У яго ўваходзяць прадстаўнікі ад абедзьвюх успомненых арганізацыяў.

*П. І.*

✳

АЎСТРАЛІЯ — МЭЛЬБУРН:

Дзякую за № 5 «Б. Шляхам». Чытаецца, як заўсёды, з цікавасьцю. Ліст Сп-ства Шыманцоў настроіў на мілыя ўспаміны. Шкадую толькі, што наш «Прыпынак», (так называем наш дом ў Аўстраліі), ёсьць шмат далей за Парыж, таму нельга наведаць Лёндан і слаўны ў ім Марыян Гаўз. Але, хто ведае, што яшчэ можа стацца?

17. II. 67. Учора атрымаў новы № 6 (99) »Б. Шл.« і ўсяго прачытаў — адразу дзялюся заўвагамі. №, як заззычай, добры і вартасны. — Вельмі важна, што будуеце і пашыраеце частку «З лістоў у Рэдакцыю», якая дае голас чытачом і надае часапісу больш жывы і актуальны характар. Пры гэтым мушу сказаць, што ад лістоў пачынаю перагляд часапісу. Маю толькі засьцярогу, каб Рэдактар даваў магчымасьць адказываць на парушаныя ў лістах справы, бо здараюцца цьверджаньні, якія вымагаюць новага асьвятленьня.

Затрымаюся тут над лістом Сп. Канстантыновіча, «Што беларус кажа аб Аўстраліі?» Ад характэры-

# З беларускае прэсы

«СЯЎБІТ»: Вяліка-Літоўскі (Беларускі) двумесячнік, Час. Каталіцка-Грамадзкі. 1967, Сакавік-Красавік, № 56.

«БЕЛАРУС»: Год XVIII, 1967, Нью Ёрк — Торонто, Студзень, № 117.

«НАВІНЫ ЗЬ БЕЛАРУСІ»: № (72), Год. выд. V, 15 студзеня.

«НАВІНЫ ЗЬ БЕЛАРУСІ»: № (73), год. выд. V, 31 студзеня.

«НАВІНЫ ЗЬ БЕЛАРУСІ». № (74), год. выд. V, 15 лютага.

«БЕЛАРУСКІ ГОЛАС»: № 145, Студзень, 1967, Торонто, Канада.

«БЕЛАРУСКІ ГОЛАС»: № 146, Люты, 1967, Торонто, Канада.

Інфармацыя з гэтага № часапісу, што з Валожынскага і Бераставіцкага касьцёлаў камуністы забралі арганы і перарабілі іх для музычнай школы ў Менску.

стыкі Аўстраліі зрабілася мне няпрыемна, як жыхару Аўстраліі, якая нас прыняла, накарміла і бальшыню «вывела ў людзі». Дзяржава, хоць маладая патрапіла выбіцца на адно зь перадавых месцаў і то ў шматлікіх напрамках. I аб гэтым ведае сяньня культурны сьвет. I гэта цэніць. — А што ў Аўстраліі ёсьць і мінусы — дзе-ж іх няма? — Але, пішучы пра гэтыя мінусы, трэба абавязкава ўспомніць і пра дасягненьні, якімі мы, жыхары Аўстраліі, ганарымся.

Сп. К-віч вельмі аднабакова, а таму і непраўдзіва насьветліў Аўстралію. I дзіўлюся, што Сп. Рэдактар, які напэўна ведае шмат аб Аўстраліі, не дадаў якога камэнтара, а пусьціў ліст Канстантыновіча ў даволі сырой форме.

I мяне дзівіць, што будучы ў Сыднэі і бачачы опэру, якая мае быць аднэй з найбольшых арыгінальных у сьвеце, таму і так каштоўная, аўтар лісту так хутка і нэгатыўна ацаніў яе. — Шматлікія высказы аўтара цікавыя і праўдзівыя, але адносяцца не да цэлае Аўстраліі, а толькі да ейных частак. Таму яны выйшлі такія дрэнныя і бедныя. Але-ж Аўстралія багатая і прыгожая, — толькі-ж трэба лепш убачыць. А мы — ў пошуках матар'яльнага дабрабыту, хоць ужо маем тут тое, што для бальшыні і ня сьнілася — не маем часу зьвярнуць увагі на нешта большае і крыху далейшае, а таму яно для бальшыні з нас і ня існуе.

Артыкул «Мяшаныя Сужэнствы» вельмі цікавы. Але сумна, што канон 1060 амаль да сяньня абавязывае: ня дзіва, што толькі было з гэтага турботаў і бяды і грахоў! Мне здавалася, што II-гі Ватыканскі Сабор гэта пазытыўна вырашыў. А тымчасам ёсьць толькі надзея, што зьменіцца ў карысьць усіх... Добра, што аб такіх балячках «Божым Шляхам» піша і дае адпаведны камэнтар.

Заклік адносна № 100 і наагул адносна «Б. Шл.» уважаю за патрэбны і актуальны. Вітаючы Рэдактара з № 100, залучаю ўсім Супрацоўнікам найшчырэйшыя пажаданьні — здароўя і задаваленьня з працы ў рэдагаваньні на карысьць беларусам і на славу Богу!

*М. Нікан.*

*

БРАЗЫЛІЯ, 2. III. 1967:

«Зямля Сьвятога Крыжа» — Бразылія — вялікая, а багацьце ў ёй нязьмернае, але бяды яшчэ больш! — Кажуць тут: «Што людзі за дзень напсуюць, то Божанька за ноч направіць». Аднак відаць, што Божанька надта разгневаўся: ня хоча папраўляць, але карае яшчэ больш, бо і ёсьць за што. —

Карнавал, перажытак паганства, тут адбываецца з усялякімі дзівацтвамі. Упрыгожаныя дарагой дзівоснай вопраткай, на якую пайшлі вялізныя мільёны, хуліганы вар'яцелі на вуліцах — сьпявалі, танцавалі, крычалі — ў п'яной, дзікай вясёласьці. —

Толькі ў адным горадзе Сао Паўлё паліцыя рэгістравала: 9 забітых, 8 самагубстваў, 3 сьмерці няведамых, 46 раненых, 206 аўта-катастрофаў і 226 карнавальных бояк. А што дзеілася ўва ўсей Бразыліі, хіба рэгістравалася толькі ў пекле?! — А ў касьцёлах — набажэнства і найбольш па 10 пабожных душачак...

Незалечаныя яшчэ раны ад бураў і ліўняў з апошніх гадоў, а ўжо новыя тропікавыя дажджы нарабілі ў Рыо-дэ-Жанэйро большых бедаў і то пераважна беднаце, якая гнезьдзіцца (як і я) на адхонах-пакатах гораў у сваіх прымітыўных «фавэлях» — «фанзах», ці проста ў будках з бляхі і фанеры, накрытых чаротам або чым далося. Такія хаткі «на курыных ножках» валіліся размытыя вадой, раньчы, забіваючы і засыпаючы пяском і балотам бедных людзей зь іх марнымі пажыткамі.

Паабрывала электра-праводку, валіла слупы — было скрозь цёмна ў горадзе. Вуліцы размытыя і занесеныя балотам. На галоўнай чыгунцы да Сао Паўлё размыла дарогу на дзесяткі кілямэтраў. У Рыо вадаправод зруйнавала і занесла пяском: вады — поўныя вуліцы, а піць яе нельга і... горад — без вады!

Трэба прызнаць, што папраўляюць тут хутка, але абыякава: працавалі тысячы чал. рук і машыны, каб паправіць найперш камунікацыю. Ня скончылі з гэтым, як 19 лютага навалілася новая ўлева над Рыо-Нітэрої, дый прычыніла гэтулькі разбурэньня і гора, што і апісаць немагчыма!

У горадзе абвалілася некалькі вялізных дамоў, забіваючы і хаваючы пад сабой жыхароў, і нямала дамоў прызнана небасьпечнымі, зь якіх трэ было выселіць людзей. На пахвалу пажарнікаў і паліцыі належыць запісаць, што ў самых небясьпечных абставінах ратавалі людзей, рызыкуючы сваім жыцьцём.

Можаце сабе, дарагія Чытачы, уявіць, як падчас найгоршага ўрагану і ўлевы адзінкі і сем'і малыя і старыя, здаровыя і хворыя, — хто як мог, — ратаваліся, беглі ці сплывалі разам з вадой і балотам, цягнучы пажыткі, у даліны, дзе трэ было таксама ў вадзе цягнуцца, а прытулку ня было аніндзе!..

У горадзе залітыя ніжэйшыя паверхні дамоў, магазыны і тавары; на вуліцах машыны і аўтабусы. Колькі забітых і загінуўшых, немагчыма сказаць, ані падрахаваць у гэтай блытаніне! — Помач плыла з усяго сьвету, але найбольш з Паўночнае Амэрыкі, дзякуючы агітацыі каталіцкага духавенства.

*

Аб грамадзкіх і эканамічных адносінах у Бразыліі можна і трэба гаварыць нямала. Тут асабліва адзначыўся прэзыдэнт Кубічэк, будуючы нікому непатрэбную новую сталіцу, якую назвалі «Бразылія», (а сам край называецца «Брэзіль»): пры гэтым Кубічэк патрапіў узбагаціцца сам і азалаціць сваіх родных і прыяцеляў; затое ўвагнаў цэлы край у галечу, бо надрукаваў масу папяровых грошаў-круцэйро.

А прэзыдэнт Галярд сыпаў грошы на камуністых і меўся запрадаць камуне ўсю дзяржаву: на шчасьце, яго скінулі!

Але наступны прэзыдэнт Кастусь Белы зрабіў на карысьць Бразыліі шмат добрага, але і нямала дрэннага: правёў рэформу адміністрацыі і ў войску, аднавіў канстытуцыю. Ну, і аказаўся даволі бесталковым: што рабіў аднэй рукой, тое псаваў другой. I ён штампаваў папяровыя грошы! аж дайшло адно круцэйро да 2750 за адзін даляр. Тады пачалі друкаваць новыя грошы: за 1000 круцэйро - адзін круц. Але і гэтыя новыя паляцелі ўніз і на міжнародным рынку ўжо іх ня хочуць ні натаваць, ні прыймаць.

А тымчасам багацьце краю — нетры найбагацейшыя ў сьвеце: золата і серабра і ўсякіх мэталёвых рудаў... Але што-ж? Адны багацеюць з кажным годам, а другія бяднеюць з кажным днём і гэтак край коціцца да рэвалюцыі, ад якой трэба чакаць голаду, як было ў Расеі і Кітаю.

Цяпер дапускаюць амэрыканскі капітал, найбольш із Злучаных Штатаў. Але ці ён вытрывае пры такой вартасьці тутэйшае валюты? Бо даляр канчаткова губіць круцэйро!

Вось, як доктар, скажу аб сваёй спэцыяльнасьці: лябораторыі вырабу мэдыкамантаў зачыніліся зусім. Працаваць ім немагчыма, калі сыр'ё трэба выпісываць з заграніцы і плаціць валютай, а лекі прадаваць за круцэйро. Дык лекі сталі недаступныя для беднага народу. Праўда, Паўночная Амэрыка, асабліва Чырвоны Крыж, прысылаюць усьцяж вельмі шмат жыўнасьці, адзежы, мэдыкамантаў і інш. Гэтым латаецца самыя неабходныя бракі ў першай патрэбе, але ратунку ў бядзе людзі не маюць і мець ня могуць.

*

Даўней усякую дапамогу ўрад дзяліў сам праз пастаўленых урадоўцаў, аднак большая частка прысланага дабра расплывалася ў іхніх руках. Цяпер, каб ратаваць сытуацыю, урад перадаў падзел ахвяраў у рукі каталіцкага эпіскапату і гэтым займецца духавенства. Ведама, што і тут дзеюцца злоўжыцьці, аднак ужо значна менш і дабро пачало — праз дабрадзейныя арганізацыі — даходзіць да самых патрабуючых. Пры касьцёлах ёсьць назначаныя сацыяльныя асыстэнты, якія разьдзяляюць ахвяры, а ўсё падлягае кантролі біскупаў і кардынала. Каталіцкія арганізацыі перадаюць прапарцыянальна часткі ахвяраў іншым цэрквам — праваслаўным, мэтадыстам, баптыстам, эвангелікам і другім, а тыя дзеляць сваім парахвіянам.

У апошнім годзе прыяжджаў сюды з Жэнэвы Ага-Хан, (кажуць, сам вельмі багаты). Ён пры УНО ведае помаччу бедным людзям усяго сьвету. Ён правадзіў рэвізію і знайшоў у некаторых арганізацыях нямала крутельства і ашуканства, дык перадаў усякую харытатыўную дапамогу ў рукі каталіцкіх арганізацыяў, дзе знайшоў адносна найбольш справядлівую дзейнасьць.

Праўда, Каталіцкая Царква дазнала ўжо досыць нападак, крытыкі і нараканьняў, але — паміма таго — ўсе — свае і чужыя — пераканаліся, што гэта адзіны ратунак у патрэбе і Царква ня можа ад гэтага адмовіцца.

Але-ж чакаем выбару новага прэзыдэнта! Што ўбачым новае і ці будзе лепшае? — ніхто не згадае. Звычайна тут, што новыя прэзыдэнты загадзя шмат абяцаюць, а пасьля ня могуць або і ня хочуць таго выканаць.

*

Нарэшце пару слоў скажу аб сабе. — Разбалталася і маё здароўе — аж дзіва, бо перажываю самую «маладосьць» у сваіх 75-ці гадох! Даўней не зважаў ні на што, а цяпер пачаў лячыць і самога сябе. А тут трафунак: працуючы ў сябе, параніў неасьцярожна нагу. Дзякую Богу за такое маленькае цярпеньне: ад гэтага мусіць не памру, хіба ад чаго другога, можа й незадоўга?

Мая хатынка й гэты раз вытрывала, (гэта ўжо другая, бо першая распалася ў ранейшай навальніцы), хоць — прызнаюся — надта баяўся! Сьцены прамоклі наскрозь — цякло зьверху, але аставаўся куток, у якім можна было схавацца. Дачка жывець са мной, хоць помачы ад яе — ніякай, але ёй памагаць трэба: сама яна пакутніца-хворая, ды і зь ёй — гора! Усё-ж лягчэй, хоць бачу яе ў сябе. Што будзе па маей сьмерці, адзін Бог ведае.

Выбачце, нагрызмоліў я аб тутэйшых падзеях, што чуў ад другіх, а найбольш, што сам перажыў ці бачыў. Можа Рэдакцыя і надрукуе, што падыходзіць? А я-ж, хоць кульгаючы, пацягну ліст на почту. — А тут зноў грыміць і маланка бліскае бязупынна, а хмары падганяюць адна другую. Найгорш, што вецер рвець, як з ланцуга сарваўшыся! Каб не паліло ізноў?! Тут як вецер нагоніць буру і дождж, дык проста няма ні канца, ні ратунку!

Кланяюся ўсім нашым Суродзічам і ўсей Рэдакцыі: няхай добры Божанька сьцеражэць ўсіх Вас у супольнай працы над беларускімі дзеткамі на чужыне — на Божую хвалу і на карысьць паднявольнае Бацькаўшчыны!

*Ваш у Хрысьце Віктар Небядовіч*

*

*Ад Рэдакцыі:* Можа хто з нашых Паважаных Чытачоў — дзеля Міласьці Божае — зажадаў-бы памагчы сапраўды беднаму Небядовічу, які ў сваім эміграцкім жыцьці — перш у Манджурыі, а пасьля ў Бразыліі — нямала нагараваўся, памагаючы, лечучы і ратуючы бліжніх у іх патрэбе і бядзе, і сам цяпер —нездаровы, стары і аглохшы — патрабуе помачы, хоць у сваей скромнасьці ня выпрошвае ў нікога. Небядовіч быў доўгія гады супрацоўнікам і прыяцелям нашага Рэдактара ў Манджурыі, таксама Ф. Абрантовіча і а. А. Цікоты.

Рэдакцыя можа даць жадаючым адрас і прозьвішча гэтага суродзіча, або сама перашле яму прысланую на наш адрас помач. Толькі просім зрабіць гэта неадкладна, уважаючы на прынцып: «Хто хутка дае, падвойна дае!» Дзякуем!

*Рэдакцыя «Божым Шляхам»*

# Новыя вершы паэтаў савецкай Беларусі

*Ніл Гілевіч*

## *КРАЙ МОЙ БЕЛАРУСКІ*

*Край мой беларускі, край!*
*Дай ты мне прыпасьці, дай,*
*Да твайго лясного,*
*Верасного долу,*
*Дзе так шчасьця многа*
*Выпала на долю, —*
*Дай-жа мне прыпасьці, дай!*

*Край мой беларускі, край!*
*Дай-жа мне напіцца, дай,*
*Той вады гаючай,*
*З той крыніцы вечнай,*
*Дзе ад ран балючых*
*Ты арлоў вылечваў, —*

*Дай-жа мне напіцца, дай!*
*Край мой беларускі, край!*
*Дай ты мне паслухаць, дай,*
*Як на лад пявучы*
*Старажытнай мовы*
*Тут гамоняць пушчы,*
*Там шумяць дубровы, —*
*Дай-жа мне паслухаць, дай!*

*Край мой беларускі, край!*
*Дай ты мне прайсьціся, дай,*
*Па тваіх прасторах,*
*Па шляхах бясконцых,*
*Уначы — пры зорах,*
*Раніцой — пры сонцы, —*
*Дай-жа мне прайсьціся, дай!*

*Край мой беларускі, край!*
*Дай мне наглядзецца, дай,*
*На твае на пожні,*
*На лугі і рэкі,*
*Каб у час апошні*
*Ўзяць з сабой навекі, —*
*Дай-жа наглядзецца, дай!*

(З цыклю «Песьні без мелодый», ЛіМ, № 4, 13. I. 1967).

---

НІЛ ГІЛЕВІЧ нарадзіўся ў 1931 г. на Лагойшчыне, працуе выкладчыкам на Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце ў Менску. Першы раз выступіў у друку ў 1957 г.

*Пімен Панчанка*

## *РОДНАЯ МОВА*

*Кажуць, мова мая аджывае*
*Век свой ціхі: ёй зьнікнуць пара.*
*Для мяне-ж яна вечна жывая,*
*Як раса, як сьляза, як зара.*

*Гэта ластавак шчабятаньне,*
*Звон сьвітальны палескіх крыніц,*
*Сінь чабору, і барвы зарніц,*
*І бусьлінае клекатаньне.*

*Калі-ж хто загадае: «Ня трэба!» —*
*Адрачэцца ад мовы народ, —*
*Папрашу я і сонца, і неба:*
*Мне ня трэба ні славы, ні хлеба,*
*Асудзіце на безліч нягод.*

*Толькі месяцаў назвы пакіньце,*
*Назвы родныя роднай зямлі,*
*Пра якія з маленства ў блакіце*
*Бор шуміць і пяюць жураўлі:*

*Студзень — з казкамі сьнежных аблокаў,*
*Люты — шчодры у сіні мароз,*
*Сакавік — з сакатаньнем і сокам,*
*Непаўторных вясновых бяроз,*

*Красавік — час маланак і ліўняў,*
*Травень — з першым каханьнем, сяўбой,*
*Чэрвень — з ягаднаю зарой,*
*Ліпень — з мёдам,*
*З пшаніцаю — жнівень.*

*Сьпелы яблычны верасень,*
*Сьветлы кастрычнік*
*У празрыстасьці чыстай, крынічнай,*
*Лістапад — залаты лістапад,*
*Сьнежань — першы густы сьнегапад...*

*Ці плачу я, ці пяю,*
*Ці размаўляю з матуляю —*
*Песьню сваю, мову сваю*
*Я да грудзей прытульваю.*

(З зборніку вершаў «Пры сьвятле маланак», Менск, 1966).

---

ПІМЕН ПАНЧАНКА — адзін з найбольшых ведамых сучасных беларускіх паэтаў. Нарадзіўся ў 1917 г. Першыя ягоныя вершы паявіліся ў друку ў 1933 г. У 1959 выйшаў ягоны «Збор Твораў» у двух томах.

## СЬВЕЖАЯ МАГІЛА

**У аўторак 21-га лютага 1967 году ў Нотынгам пасьля доўгай і цяжкай хваробы памёр Нікіта СМАЛЬ. Нябожчык нарадзіўся 25-га траўня 1907 г. у Хацїславе на Берасьцейшчыне. Апошніх 20 гадоў ён жыў у Англіі. Галоўнай мэтай апошніх гадоў свайго жыцьця было запэўніць як найлепшую будучыню свайму сыну Міколу, для якога ён быў заўсёды добрым і клапатлівым бацькам.**

**Паховіны адбыліся у пятніцу 24-га лютага на могілках Бэйсфорд у Нотынгаме. Хаваў а. Янка Абабурка.**

**ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!**

**Дня 6-га сакавіка 1967 г. у Амэрыцы, гор. Jersey City, N. I., памёр АНТОН ШВЭД, пражыўшы 51 год. Нарадзіўся 18. IV. 1915 г. у вёсцы Скарчэва, каля Баранавіч.**

**ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!**

## АБВЕСТКА

**Беларуская Школа-Інтарнат для хлапцоў імя сьвятога Кірыла Тураўскага ў Лёндане распачала прыём кандыдатаў на новы 1967—1968 навучальны год. У школу прымаюцца сыны беларускіх бацькоў у веку ад 8 да 11 гадоў.**

**Лік вольных месцаў у школе ёсьць агранічаны і таму бацькі якія жадалі-бы прыслаць туды свайго сына, павінны ў сваім собскім інтарэсе напісаць аб гэтым кіраўніку школы ў як найхутчэйшым часе. Тэрмін складаньня заяваў канчаецца 31-га траўня для кандыдатаў з Англіі і 30 красавіка для кандыдатаў з іншых краінаў. Усе заявы будуць разглядацца ў парадку іхняга атрыманьня.**

**У ўсіх справах зьвязаных з Школаю трэба пісаць на наступны адрас:**

**The Rev. Headmaster**
**St. Cyril's House,**
**41 Holden Road,**
**London, N. 12.**

Школа Сьвятога Кірыла Тураўскага у Лёндане ладзіць летнюю калёнію для дзяцей ў часе ад 29-га ліпеня да 6-га жніўня. Калёнія у першую чаргу прызначаная для беларускіх дзяўчат у веку 9—16 гадоў, каб даць ім магчымасьць правесьці прыемна і карысна кароткі час у беларускай атмасфэры. Ёсьць аднак таксама агранічаны лік месцаў для малых хлопцаў (8—10 гадоў). Кошт удзелу ў калёніі выносіць 5 фунтаў ад дзіцяці.

Зацікаўленыя бацькі павінны пісаць да кіраўнічкі калёніі, сп.-ні Алены Міхалюк на адрас:

Mrs. H. Michaluk,
St. Cyril's House,
41 Holden Road, London, N. 12

# Кашмар

*(Фэльетон)*

Пасьля добрае вячэры *тройка* — Падгорны, Брэжнеў, Касыгін — стаялі пасярод сьвятліцы на дзяржаўнай нарадзе — аж зьнянацку заўважылі між сабою няпрошанага гасьця, які з усьмешкай загаманіў:

— Як здаровы, таварышы? Віншую вас з Юбілеям 50 год камуна-атэізму!

Ён так спадабаўся ім, што кінуліся да яго вітацца, але нейкая сіла так адкінула іх, што ледзь не зваліліся з ног!

*Падгорны:* — Стой! Хто ты?

*Госьць:* — А ці-ж вы мяне не пазналі? Я — ваш найстарэйшы таварыш. І мушу вам падзякаваць за супрацу, бо вы вельмі дакладна спаўняеце маю праграму; я і сам лепш не патрапіў-бы.

*Брэжнеў:* — Але-ж мы цябе пры рабоце ня бачылі!

*Госьць:* — Сьляпы ня бачыць, а відушчы дагадаецца. А я працаваў і зь Ленінам, і з Сталінам і . . . нават з самым Марксам.

*Падгорны:* — Дык ці ня Чорт — ты?

*Брэжнеў і Касыгін:* — Ага, ага! ці ня Чорт — ты?

*Госьць:* — А калі чорт, дык што-ж такое?

*Брэжнеў:* — А тое, што мы — атэістыя, значыць, як вучыў Маркс — ні Бога няма, ні таго сьвету няма!

*Касыгін:* — А Ленін даказаў, што і чарцей няма.

*Чорт:* — А калі я з вамі гавару, значыць, я ёсьць . . .

*Брэжнеў:* — Гэта толькі фантазія: а цябе і зусім няма!

*Касыгін:* — Давай нам знак!

*Чорт:* — Добра, зара дам табе знак.

*Брэжнеў:* — Чакай! скажы перш, як нам дабіцца з кітайцамі згоды?

*Чорт:* — Гэта — не мая справа: я прыстаўлены да вас; а ў Кітаі іншы спэц — завецца па кітайску «Жэнь-Як-Пень», дык яго і пытайце . . .

*Касыгін:* — А ты давай знак!

*Брэжнеў:* — Пачакай, Касыгін! Я сам дам яму знак. — Да Чарта: — Рукі ўверх ! ! ! — (І Брэжнеў схапіў свой рэвальвэр).

Аднак Чорт ані схіснуўся і з насьмешкаю пакруціў галавою.

Тут *Падгорны* падняў руку: — У імя Маркса і Леніна згінь-прападзі!

Але Чорт зарагатаў такім дэманічным сьмехам — аж задрыжаў Крэмль і сказаў: — Эх, вы! Я толькі аднаго ІМЯ баюся. Вы ў Яго ня верыце, за тое вам будзе ў пекле найцяплейшае месца. А вось вам *знак* . . .

Тут Чорт закруціўся наўкол іх і як плясьне лапамі, а яны як стукнуліся між сабою, дык звалілася тройка ў адну кучу! —

Ледзь пачалі падыймацца. Бач: Чарта няма, а ў іх гузы на лобе, з вачэй сьлёзы, з насоў — кроў і пярэднія зубы хістаюцца. —

*Касыгін:* — Ратуйце, людзі! Што з намі стала?

*Падгорны:* — А дзе пракляты Чорт?

*Брэжнеў:* — Ня было ніякага Чорта: мы проста пераджылі кашмар.

*Касыгін:* — Н'так! водка была на вячэру 75°, дык з таго і кашмар. —

*Падгорны:* — А скуль у мяне кроў? Увесь рукаў запэцкаў. Я не пазволю над сабой насьміхацца! Калі гэта ня быў чорт, дык няма праўды на сьвеце.

*Брэжнеў:* — Ты лепш маўчы! цябе, відаць, прычараваў Рымскі Папа, дык ты і ў чарта паверыў.

*Падгорны:* — А ты ідзі — прасьпіся! А я раджу, (ведама, пад сакрэтам), прыклікаць папа, каб асьвяціў Крэмль, бо тут усюды — чэрці, і ўся камуна — чэрці, а нашыя атэістыя і таго горш ! . .

*Я. С.*

---

## ПРЫКЛАДЫ:
## ЦЯРПЛІВАСЬЦЬ, ВЫТРЫВАЛАСЬЦЬ, АХВЯРНАСЬЦЬ

*Хрыстафор Калюмб*: 18 гадоў шукаў помачы, каб адкрыць Амэрыку і толькі маючы 58 г. прыбыў туды.

*Юл. Цэзар,* выйшаўшы з карабля на бераг Афрыкі, упаў на зямлю — аж таварышы ўстрывожыліся, што гэта дрэнны знак «Омэн», але ён загаласіў: «Я здабыў цябе, Афрыка!»

*Дантэ* пісаў «Боскую Камэдыю» (найслаўнейшую паэму ў сьвеце) на выгнаньні, змагаючыся зь бядою, 30 гадоў.

*Моцарт* напісаў вельмі шмат слаўных опэраў, канцэртаў для фортэпіяну і для скрыпкі: меў слабае здароўе, а апошняе «Рэквіем» пісаў, будучы хворым. Памёр у беднасьці.

*Прэскотт,* амэрыканскі гісторык, паўсьляпы, 10 гадоў студыяваў чужыя мовы.

*Ньютон* 15 раз перапісываў сваю «Хронолёгію» і ўсьцяж передумываў свае досьледы.

*Тыцыян* 7 гадоў маляваў адзін абраз, часта нават у ночы.

# УВАГА!




У Выдавецтве можна купіць твор Вінцука Адважнага — паэма «Князь і лапаць». На 250-ці старонках, у літаратурнай казачнай форме, аўтар апісвае лёс сям'і эмігранта, якая паддаўшыся камуністычнай агітацыі, пастанавіла вярнуцца на падсавецкую Беларусь. У кнізе выкарыстаныя глыбокія назіраньні й перажываньні аўтара з часоў ягонага жыцьця ў савецкім зьняволеньні. Ад першых чытачоў свайго новага твору аўтар атрымаў ужо шмат вельмі прыхільных водгукаў.

Адрас Выдавецтва:

Marian House
Holden Avenue, London, N. 12
Gr. Britain
Rev. J. Hermanovič








У аўтара можна купіць в. паважную і цікавую кніжку «КІТАЙ—СІБІР—МАСКВА». Гэтая кніжка разам з кн. «Князь і Лапаць» — для чытачоў «Божым Шляхам» па зьніжанай цане — 3 даляры, або 1 фунт, або 10 фр. фр. ці 10 ням. марак

«Кітай—Сібір—Масква» пераложана і выдана ў Лёндане ў фірме «Veritas» зь беларускага на польскую мову і ў Гішпаніі перакладаецца на гішпанскую.

Тымчасам можна купіць у аўтара з польскім тэкстам у Рэдакцыі «Божым Шляхам» па зьніжанай цане 15 шыл., або 3,25 дал. Або у выдавецтве «Veritas»: 4-8, Praed Mews, London, W. 2. England. Цана 21 шыл., або 3,50 дал.

## ЗВАРОТ ДА ПАВАЖАНЫХ ЧЫТАЧОЎ

### НУМАР СТО ПЕРШЫ — № 101

Другой сотні — першы нумар (101) —
Парог новае эпохі, —
Ці дальш будзе «Шлях» далёкі?
Каб даў Бог здароўе й гумар!

Чытачы павінны знаці,
Што рэдактар, хоць «Адважны»,
Састарэў і стаў няважны, —
Яго просьбу падтрымайце!

*

### ПРОСЬБА АБ ЗВАЛЬНЕНЬНЕ

Дарагі Ўладыка ў Рыме!
Я ўжо скончыў дзьве сямёркі —
Дзьве сякеркі (77), лёс меў горкі:
Мой адказ няхай-жа прыйме!

Няхай стануць людзі сьвежы,
Памагаць я ім гатовы:
Кіньце ў печ старыя дровы! —
Маладыя на узьмежжы.

«Божы Шлях» хай угрунтуюць:
Трэ пашырыць, упрыгожыць,
Чытачоў яшчэ прымножыць —
Няхай працы не шкадуюць!

Чытач — здалеку, ці зьблізку —
«Божым Шляхам» хай чытае,
Няхай пісьмы прысылае
І ў пару дае падпіску!

*

«ШЛЯХ — наш — БОЖЫ»,
Шлях прыгожы,
Колькі можа,
Нам паможа

Верыць Богу: Бог дасьць сілу
Служыць Бацькаўшчыне мілай, —
І, зламаўшы перашкоды,
Нам вярнуцца ў Край Свабоды!

*Стары рэдактар Я. Г.*

### ЗЬМЕСТ:



Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14.